# ДУБРОЎСКІ НАСТРОЙ

№ 98

СЬНЕЖАНЬ 2006

НАРОДНЫ БАЯВЫ ЛІСТОК ДУБРОВА ПАРЫЦКІ ПАВЕТ


**У нумары: Аляксандр Казулін трымаўся да канца.**
**Божая кара на дыктатараў.**
**Дзе грошы з «фонду на чорны дзень»?**
**Нікчэмныя выбары**
**ды іншыя байкі баявога лістка.**

## РАШУЧЫ КАЗУЛІН.

Нашыя чытачы ўжо ведаюць, што былы кандыдат у прэзідэнты спадар Аляксандр Казулін абвясьціў у турме галадоўку, патрабуючы разгляду парушэння правоў чалавека ў Беларусі на міжнародным узроўні. Некалькі дзесяткаў сутак гэты чалавек цярпеў голад, каб сваім пратэстам зьвярнуць увагу часткі сьвету на тое царства беззаконня, што пануе ў нашай Радзіме.

Гэты адчайны крок заслугоўвае павагі, тым болей, што да пратэсту сп. Казуліна далучылася ладная колькасьць людзей, і не толькі ў Беларусі.

Пратэст сп. Аляксандра Казуліна быў пачуты і пытанне пра Беларусь было ўзьнятае.

Ліха жадае хавацца ў цяньку, але гэтым разам яго выцягнулі на сьвет Божы.

Дась Бог і такі ідыёцкі, варварскі і мярзотны рэжым, ненавіджонае гідоцце, выцягнем на скатамагільнік гісторыі. Па нашых назіраннях ён ужо багата каму астыў да надаеў. Весялей пазірай на сьвет, чытачу. Пакуль што беларуская камедыя не кончылася.

## АДРАДЖЭННЕ ФЕНІКСУ.

Белавежскую гарэлку п"еш заўсёды з задавальненем, бо яна нагадвае нам пра прыемную падзею: частковым развале Расейскай імперыі ліха.

Роўна 15 год таму ўзьніклая на крыві і гвалце Расейска-камуністычная імперыя часткова рухнула. Ад яе вызваліліся самыя маладыя некалі заваяваныя часткі - ўскраіны. Ото ж была-дый застаецца!!- скруха ў сэрцах расейскіх і крэола-расейскіх імперыялістаў. Гэтыя галганы нават тэрмін асобы прыдумалі: каб не казаць проста і шчыра «былыя калоніі» цяперака цьвенькаюць «блізкае замежжа».

Незалежнасьць пазбавіла нашых хлопцаў ад расейскай арміі, ад расейскіх ворагаў. Хай беларускі дыктатар раз-пораз плявузкае, што беларусы памруць за Расею. Няма дурных, нахер яна нам здалася. У Расеі свайго гарматнага мяса даволі.

Сённяшнія цяжкасьці Беларусі не ад незалежнасьці, а ад паганага бязграматнага кіраўніцтва, ад слабага народу Імперыя моцна пахіснулася, але пакінула нам цяжкую спадчыну, самае непрыемнае зь якой- русіфікаванае імперскае мысьленне, абсалютна непрыдатнае для Беларусі. Наш дыктатар- жывое ўвасабленне такога прымітыўнага савецка-расейскага ўяўлення пра навакольны сьвет, які здаецца яму пеклам ворагаў і толькі ён утрымлівае апошні рай на зямлі. От гэта нас і тармозіць.

Дарма, перажывом і дыктатара і дыктатуру.

Рухне і ён і яна як 15 год таму расейская камуністычная імперыя ліха.

Адраджэнне беларускага Феніксу пачалося.

Жыве Беларусь!

## БУЙНАЯ АНАМАЛІЯ

Стаіць зіма, а сьнегу не было і няма. Тэмпература ўстойліва трымаецца вышэй за нуль. Зелянее трава.

Трохі нязвычна гэта, але выгадна і людзям і жывёле.

Кажуць, сям-там у Еўропе такой зімы не было болей за тысячу гадоў. Кажуць, што чакае нас сьпякотнае лета.

Мо «меліярацыю» давядзецца скасаваць, каб ваду захаваць?

# СЕЛЬСКІ СХОД У ДОМЕ КУЛЬТУРЫ.

Наш баявы лісток не раз пісаў, што дуброўцы хочуць пачуць уладу і пагаварыць зь ёю. Але яе ніяк нельга було вукалупаць з Кабульшчыны, хоць па закону яна абавязана сустракацца з народам, з тым, хто за яе галасаваў. Каб вуцягнуць сельрадаўцаў да народу, давялося нават падключыць райсавет.

І яна прыехала. 14 сьнежня. Але, пабачце, як хітра.

Адзіная абвестка пра сход была павешана ля манапалькі за паўтара дня да мерапрыемства, таму, натуральна, на яе мала хто зьвярнуў увагу ці наогул не бачыў. Да таго ж сустрэча была прымеркавана а 16 гадзіне, калі толькі-толькі канчаўся працоўны дзень у арцелі. А 16 гадзіне ў Дуброве ў сьнежні ўжо цёмна, лічы ноч.

Перад сходам уладная дэлегацыя нанесла папераджальны візіт да мясцовых аўтарытэтаў- некуды ці то ў цялятнік, ці то на ферму і на працоўным месцы высьветліла, што народ пытанняў і праблем не мае.

А 16 гадзіне кіроўная дэлегацыя зьявілася ў Храме Сатаны- дом культуры стаіць на былым царкоўным цьвінтары, на могілках і ў ім рэгулярна ладзіцца д"ябальскі шал і шабас ведзьмаў- скокі і расейская папса-дыскатэк.

Натуральна, што сельрадаўцаў ніхто не чакаў.

Чыста выпадкова там апынуўся адзін мужычок з тых, хто хацеў пачуць уладу. І ён яе пачуў!

На яго абрынуліся з папрокамі, упяліся, што от, маўляў, ты хацеў нас пабачыць і пачуць, але не сабраў народ. Значыць, народ путанняў і праблем не мае, уладаю даволны, а ву нешта з сходам удумляяцца.

Нейкі панок з Шацілак з райкаму дужа абураўся, што ён «марна прыехаў, спаліў більзін, а ты сходу не забясьпечыў». Калі ж мужычок нек нясьмела заікнуўся, што ў Дуброве лазьню паладзіць трэба было б, панок з Шацілак энергічна сказаў яму, што лазьню развалілі дуброўцы, «мы з табою» (так!), то і ладзяць яе хай дуброўцы. За «дыялогам» пільна і варожа сачылі міліцыянер, начальнік сельрады сп. Толя Крывалап ды панятыя з аднае дэпутаткі і паслужлівай мясцовай актывісткі.

Не жадаючы заходзіць у Храм Сатаны і ўвязвацца ў дэмагагічную размову мужычок адцураўся ад прыемнай, але небясьпечнай і агрэсіўнай кампаніі і, плюючыся, пашыбаваў дадому, увесь час цытуючы сам сабе радкі з «Анталогіі беларускай паэзіі»:

«Колькі раз табе казала
Не чапай, Сьцяпан, гаўна!»

Усё яшчэ пад уражаннем «сельскага сходу» назаўтра мужычок апытаў народ, ці праўда, што яму не трэба сустрэча з уладай, ці бачыў народ абвестку.

Людзі з абурэннем казалі, што хацелі б пачуць уладу, але не ўночы, што на абвестку не зьвярнулі ўвагі, што праблемы ійе.

А яшчэ зьедліва папікалі склад галасавальнай камісіі ды кандыдатаў ў дэпутаты, лічачы, што і ў камісію пабралі не тых і кандыдаты нізкагатунковыя.

На гэты конт сп. Толя Крывалап сказаў так: «Мы ўзялі тых, хто нам нада.»

Ну, раз ім трэба, то хай бяруць. Пачакаем да наступнага сельскага «сходу».

Калі ён будзе...

# ДУБРОВА РЫХТУЕЦЦА ДА ВЫБАРАЎ.

І першая прыкмета гэтага- яркія ліхтары, якія заліваюць люксамі, люменамі ды кандэламі, прашчэй, сьвятлом вуліцы Дубровы. Сям-там ліхтароў аж задужа і яўна перавышае сьціплую аблезлую норму мінімуму сацыяльнага стандарту райкама, што павесілі на дошцы ля манапалькі. А сям-там ліхтар не зашкодзіў бы, але яго няма.

У Зарэччы, баяць, ліхтары гарацьі ўдзень. Добра жывом! Але гэтаму бязладдзю і дысгармоніі праз пару тыдняў можа прыйсьці канец. Хоць зоркі пабачым.

Актывізавалася вярбоўная дзейнасьць: прызначаныя актывісткі бегалі, зьбіралі подпісы за патрэбных людзей у камісіі і кандыдаты. У камісію запісалі сп. Любу Доўгую, а ў кандыдаты сп. Міхайла Доўгага, ейнага мужа і іхняга сына сп. Віктара Доўгага. Так бы мовіць, сямейнае падмяванне.

Яшчэ адна сямейная дынастыя будзе ў камісіі. Гэта загадчыца домам культуры сп. Тамара Друзік і ейны муж сп. Віктар Друзік. Яны і на тых вубарах былі ў камісіі. А вось сп. Анатоль Друзік адзін, без жонкі. Ён упіраўся, не хацеў, але яго запісалі ў камісію.

Таксама кандыдаткаю ў райсавет вылучана ад механізатараў дырэктарка школы сп. Тацяна Стукач.

А настаўніцу сп. Надзею Бусел у камісію не ўзялі, хоць і была спушчана разнарадка школі і за яе прагаласавалі настаўнікі. Але настаўніка сп. Пятра Мітраховіча ўзялі праз збор подпісаў.

Пабралі... непабралі...

Мала хто думае, што гэтыя вубары і гэтыя саветы патрэбныя.

## ГОНАР НАДОЎГА.

Яшчэ на два гады падоўжана акцыя напісання шкалярамі розных вершаў ды твораў на тэму, падказаную намі, а менавіта «Жыву ў Беларусі і тым ганаруся».

Тэма зусім ідыёцкая і бессэнсоўная, і тое, што мы палічылі проста жартам воляю разумнікаў ад адукацыі стала шворнем і занозаю між іншых чыннікаў выхавання патрэбнага дыктатуры пакалення.

Раней нашыя настаўнікі складалі папросту планы выхаваўчае працы. Цяперака, кажуць яны, гэтыя планы называюцца планамі выхаваўчай і ідэялагічнай працы. Па канстытуцыі якая - небудзь ідэялогія не павінна быць у школе, але калі гэта ідэалогія дыктатуры - то чаму ж не?

Як і пры бальшавіках, дыктатар і ягоныя халуі ўвялі для навучэнцаў «інфармацыйную» гадзіну, падоўжылі ўрокі, сьціснулі працоўны тыдзень для дзяцей да пяці дзён, скум”ячылі праграмы навучання, завалілі школы, як і іншыя ўстановы лавінаю бессэнсоўных папер.

Скуль жа гэта тасаванне дзяцей і нерваванне шкрабаў (школьных работнікаў)? А адтуль. Выступаючы перад сваімі на Ўсебеларускім сходзе дыктатар шчыра заявіў: «Я проста памешан на этам абразаваніі». І адборная селектыўная публіка ў захапленні пляснула ў ладкі «памешанаму на абразаваніі». Калі «памешаныя» пачынаюць кіраваць, то і пачынаецца бэдлам.

У Жойдзішках ля Смургоняў, у Баршчоўцы ля Рэчыцы іёе добрыя хаты з слаўнымі варажбітамі-санітарамі для такога кшталту кліентаў.

## ВУКРУЧУЯЦЦА.

Памятаяцца, ледзь толькі малады беларускі дыктатар-тады мы шчэ толькі падазравалі, што ён стане дыктатарам- ступіў на беларускі пасад, як борзьдзенька заявіў, маўляў, дзяржаўная скарбонка нішчымная, Вячаслаў Францавіч раскраў, нічога не магу абяцаць добрага. І кухвайкі тут жа і шчыра паверылі свайму пустому і нішчымнаму стоду і ўпарта і цярпліва чакалі аднаўлення савецкага саюзу, то бок, уваскрэсення нябожчыкаў, вяртання дэфіцытнае каўбасы, райкамаў- гэтых Палацаў правасуддзя- ды іншае дрэні.

З усяго яны атрымалі дзьве танныя і каварныя рэчы: савецкі герб, гімн і сьцяг ды рускі язык на мучэнне сваім дзецям. (Пляванне сабе ў твар кухвайкі ўспрынялі як боскае памазанне).

Сёння становішча паўтараецца. Праз дванаццаць з гакам год упартага таптання па ўласным шчасьці народ пачуў ад дыктатара, што 2007 год будзе кашмарна жудасна цяжкім. Словам, пекла, а не год.

Разумная публіка адразу ж зьмікіціла, што гэта шчырае прызнанне ў правале ўласнага кіравання і няздатнасьці наладзіць разьвіццё краіны на устойлівы рост, на падвышку дабрабыту і якасьці жыцця.

Здавалася б, раз дыктатар прызнаўся ў правале сваёй палітыкі «п”яўкі» на Расеі, то, любячы народ і бяздарна дбаючы пра яго, мусіць пайсьці, каб даць месца іншым паправіць становішча.

Насамрэч ні пра каго дыктатар не дбае і думае толькі пра сябе, сваю ўладу і сваю ахову, прэтарыянскую гвардыю.

Заява дыктатара пра жудасны наступны год подлая.

Народ спадзяваўся на палёгку на дабрабыт, на якасьць жыцця, а атрымаў папярэджанне зьменшыць апетыт, звузіць дыяметр глоткі, зацісунць пас на портках.

А для чаго? Дзеля выжывання дыктатуркі?

Сам дыктатар выкруціцца, народу падставіць вінаватаю Расею, як раней Кебіча ды Шушкевіча, скіне на яе гром.

Быў народ раней сыравінаю для камунізму, а цяперака ператвораны ў сыравіну для дык татуры.

**Жыць у зямлянках.**

Пэўне, добра заціснула Расея свайго «саюзьнічка», што завішчаў пра жыццё ў зямлянках, то бок пра вяртанне ў пячорны век.

І тут хлусіць. Не пойдзе ён у пячору.

Тут Казулін спытаў бы:

«**Дзе грошы, Аляксандр**?»

Некалькі год таму дыктатар заявіў, што мае сакрэтны фонд «на чорны дзень» і фонд той так схаваны, што апазіцыя яго не знойдзе. (Крадзеныя грошы, значыць.)

Дык вось ён, той чорны дзень прышоў. Раз Расея, да якой ты на коленцах хочаш паўзьці дала табе насцака пад задніцу, даставай свой фонд, купляй газы і нафты і не яўкай багата.

Але скупярэча дыктатар нават ні словам ні бедным не абазваўся пра «фонд на чорны дзень». Забыўся. Напэўна, гэта ён пра свой «чорны дзень» дбае.

Дык усё ж, дзе ж грошы з чорнага фонду?

Зважаючы на выкрунтасы і зьвягню прапаганды па ўсім перыметры нацыянальнага абшару можна павесіць цытату з Дантэ Аліг”еры:

«Пакінь ўсякія спадзевы, той хто заходзіць».

Урэшце, лопне дыктатура, але столькі жыцця змарнавана...

## НА СПРАВАЗДАЧУ.

Траіх дыктатараў паклікаў Гаспод да сябе на справаздачу. Несумненна, усе трое ўжо смажацца ў катлох з смалою- (тэмпература кіпення пад 300 градусаў).

Адзін- туркменскі Сапармурад Ніязаў. Гэтая пачвара- гадунец камунізму, з тых, што былі «розум, гонар і сумленне». Нічога з гэтага ў Ніязава не было. Аказваецца, ён і ў Беларусі працаваў некалькі месяцаў на камуністычных пасадах. Па беларускім каланіяльным тэлебачанні паказвалі Туркменістан, хвалілі тамтэйшыя парадкі. Многім спадабалася, што ў Туркменістане хлеб танны, газ і электрычнасьць дармовая, квартплата нізкая. Беларускае дыктатарава тэлебачанне не расказала, што ў Туркменістане няма бальніц у раённых цэнтрах, ліквідаваны пеньсіі, школьная адукацыя абрэзана да 9 (дзевяці) класаў, а галоўная кніга- гэта шэдэўр дыктатара.

Увесь газ прысабечыў Ніязаў, народ бедны. Таму дармовы газ і хлеб неабходнасьць, каб народ не здох зусім.

Другі дыктатар-Пiначэт.

Ён арганізаваў з помаччу амерыканцаў пераварот, а пасьля перавароту ягоная зграя забойцаў прайшла па ўсім Чылі ад поўдня да поўначы, забіваючы ўсіх нязгодных з дыктатарам. Піначэт з урадамі некалькіх іншых суседніх краін стварыў міжнародны сіндыкат забойцаў, якія забівалі сваіх праціўнікаў на чужой тэрыторыі. Бувая, хваляць і Піначэта, што стварыў эканамічны «цуд». Найперш ён сьмярдзючы забойца, тым і бясслаўны.

Трэці дыктатар Садам Хусейн. Акрамя таго, што ён забіваў уласных грамадзян, ён, падкуплены савецкімі бальшавікамі, распачаў вайну з Персіяй/ Іранам.Бальшавікі хацелі гэтак адцягнуць Іран ад помачы аўганскім патрыётам, а ўвагу сусьветнага грамадства ад аўганскае авантуры.

Загінулі сотні тысяч маладых хлопцаў.

Пры жыцці гэтыя дыктатары не шанавалі ні людзей ні Бога. Бог спыніў іхняе мярзоцце.

## КАСТА ПА-НАД ЗАКОНАМ.

9 сьнежня наш дыктатар зрабіў верхняй касьце, сваёй камарылы, падарунак.Ён выдаў указ, якім вывеў яе з-пад юрысдыкцыі звычайнай юстыцыі і цяперака, як калісь цар ці імператар, будзе сам ладзіць суд сваім прыхвасням, калі яны што нашкодзяць .

Такім чынам, самадурна зьнішчаецца прынцып юрыдычнай роўнасьці грамадзян перад законам. Грамадзян дзеляць на дзьве няроўныя касты: на найвышэйшую касту недатыкальных закону і астатнюю касту адказных за ўсё. Груба кажучы, вялікі чыноўнік перарэжа вас машынаю і яму нічога не будзе, а вас пасадзяць за тры каласкі.

Беларускі дыктатар загроб сабе такія правы, што яго іначай як прэзідэнтам-дыктатарам і аўтарытарным кіраўніком ніхто ў Еўропе не называе. Стараюцца не ўпамінаць і ягонага імя, быццам гэта нешта брыдкае і гідкае.

Дыктатару такі ўказ патрэбен найперш, каб злачынствы камарылы і парушэнні закону не сталі вядомы праз судовыя працэсы, ды і большая падтрымка з боку камарыль не шкодзіць. Данежне!

Дбаючы пра камарылью, дзе там дбаць пра просты люд...

Але да пары збан воду носіць..

## ЕЎРАХАЎРУС ПАДАЕ РУКУ БЕЛАРУСІ.

Дыктатар і ягоная афіцыйная прапаганда раз-пораз цьвердзяць, што «ў Еўропе нас ніхто не чакае» і такім чынам ізалююць Беларусь ад белага сьвету. (Затое нас прагна чакаюць у Расеі і ўжо прыгатавалі месца ў нашай жа тэрыторыі- Смаленскай губерні). Але няпраўда: у Еўропе ведаюць і адчуваюць, што без Украйны і Беларусі Еўропа не поўная. (От Турцыю там сапраўды не хочуць чакаць).

Надоечы Еўрапейскі Хаўрус прадэманстраваў Беларусі сваю прыязнасьць, прапанаваўшы супрацоўніцтва і дапамогу ў абмен на крокі да дэмакратызацыі краіны. Трэба вызваліць палітычных вязьняў, паправіць выбарчы кодэкс, вярнуць свабоду слова, друку.

Але гэтыя зусім звычайныя для Еўропы рэчы непрымальныя для рэжыму, таму еўрапейская рука павісла ў паветры.

А дарма.У сьвятле подлага расейскага паліўнага ціску падтрымка Еўропы была б не лішняй.

Дыктатару нявыкрутка. І еўрапейская дэмакратыя для яго сьмерць і ў Расею патрапіць- самагубства.

Застаецца цягнуць час і выкручвацца.

За наш кошт, вядома.

**Радыё «Свабода»**

Ад лістапада да сакавіка вяшчае

| | | |
|---|---|---|
| 06-08гадзін- | 6140, 7190 кгц | 49 і 41 м |
| 18-20 г | 9865, 11925 кгц | 31 і 25 м |
| 20-22 г | 9725б 9865 кгц | 31, 31 м |

Друкарня І. Масьціцкага
100 ас. Падп. да друку 31.XII. 2006